## Сядзіба

Выпуск № 23 (411)

Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ.

# Разлікі і пралікі

**Сярэдзіна лета яскрава акрэслівае віды на ўраджай паслёнавых культур. Моцная расліна — чакай багатага збору, слабая — можа і не знімем больш, чым пасадзілі-пасеялі.**

А як пазнаць тую моцную расліну? На бульбе гэта буйное лісце, сцябліны ці не сантыметр у дыяметры, знізу ідуць пасынкі, а кветкі яскрава абасоблены і цвітуць вельмі дружна. Увесь ліст цёмназялёны з блакітным адценнем. Пройдуць яшчэ два-тры тыдні, і зямля ў радках, якраз ля камлёў, растрэскаецца. Гэта шпарка набіраюць моцы клубні. Пад кустом такіх 100- і 200-грамовікаў можа быць з дзесятак-паўтара.

З пачаткам цвіцення ўсе працэсы ў расліне перабудоўваюцца. Больш за ўсё ідзе рух сілкавання зверху ўніз. Ліст і сцябліна спаўна аддаюць усё лепшае, што нагулялі ў маі-чэрвені і што здабудуць у ліпені-жніўні.

Вось чаму на той лісточак неабходна маліцца. Наляціць фітафтора, прычэпіцца жук (яго другая хваля ўжо пачалася ці на падыходзе) — і з горыччу адзначай адны страты.

Менавіта ў ліпені, у першай яго палове, павінна быць дзве апрацоўкі — у першую чаргу супраць фітафторы. А калі яшчэ выходзіць на бацвінне і каларадскі жук, то апрацоўкі трэба сумяшчаць. Скажам, у бардоскую сумесь дабаўляць «каратэ». Можна дадаць і трэці кампанент — азотнакіслы амоній. На кожнае вядро яго даваць сталовую лыжку ці паўтары. Разводзіць азот лепш асобна ў шкляной ёмістасці (3-літровы слоік). Памешваць і глядзець, калі ўвесь растворыцца. Тады і ўліваць. Але агульная маса вадкасці павінна быць такой, якой патрабуе інструкцыя, — дзесяць літраў. Усё працадзіць праз капронавую панчоху і апырскваць. Лепш гэта рабіць надвечар.

Цяпер звернем увагу на памідоры. Многія сяляне пасадзілі ўсяго адзін-два дзесяткі каліў. Вядома, расада была з базара. Прыжылася. Яно і не дзіва: такі сёлета паліў! На першай гронцы ёсць маленькія плодзікі, яшчэ адна, больш высокая, вось-вось зацвіце. З'явіліся і пасынкі. Усё гэта сведчыць аб добрым самаадчуванні памідораў. Цяпер патрэбен час, каб з кветачкі вырас чырвоны плод. І тэрмін гэты працяглы — амаль паўтара месяца! Прыкінем да нашага сённяшняга дня гэты тэрмін. А яшчэ трэба накінуць на непагадзь. Атрымаецца... верасень. Вось вам яскравыя разлікі і пралікі.

Сорт Лорх.

А ці можна неяк паскорыць час збору? Безумоўна, але не намнога. Па-першае, да 15—20 ліпеня зняць усе органы росту: адрэзаць верхавіну і пасынкі, нават кветкі. На расліне пакінуць дзве (лепшы выпадак) ці тры (выпадак сумніўны) гронкі. Уся энергія каранёў, лісцяў і сцяблін будзе накіравана на тую маленькую сямейку, што пакінулі. Зразумела, яе развіццё будзе максімальным.

З іншых мерапрыемстваў, якія набліжаюць збор пладоў, адназначым фосфар. Выцяжкай з суперфасфату два разы з інтэрвалам у дзесяць дзён апрацаваць гронкі з пладамі. Выцяжка рыхтуецца так. У шкляной (эмаліраванай, драўлянай, глінянай) пасудзіне ў двух-трох літрах цёплай вады разводзім 50 ці 100 грамаў суперфасфату. За адзін дзень добрага выніку дабіцца цяжка. Работа зацягнецца на двое-трое сутак. Увесь час памешваць. Пасля адстойваць. Зліваць з асадку. Гэта і будзе выцяжка. Улівайце ў ручны апыляльнік — і за справу. Пырскаць толькі на плады. І рабіць гэта ў жніўні, калі тыя плады ўжо даволі вялікія.

Другая мера паскоранага развіцця пладоў — адкрыць да іх доступ сонца. Іншым разам варта зняць нават моцны ліст. Зрэзаць усе лісты, якія знаходзяцца ніжэй першай гронкі. Саму гронку падвязаць да апоры, бо расліна затрачвае «сродкі» і на яе моц.

Па-трэцяе, добра даглядаць (акучыць з папярэдняй падкормкай каравяком; праз дзесяць дзён ці два тыдні аперацыю паўтарыць; прыкладна ў тыя ж тэрміны двойчы апрацаваць супраць фітафторы — праз тыдзень).

Чацвёрты сродак — у другой палове жніўня падкапаць кусты з усіх бакоў. Карані не будуць пастаўляць сілкаванне ў расліну, і плады пачнуць чырванець.

Нарэшце апошняе. Плады падраслі, але многія з плямамі фітафторы (падскурныя бурыя плямы). Плады зняць і адразу змясціць у ваду з тэмпературай у 50—60 градусаў на дзве хвіліны. Калі плямы фітафторы значныя, то тэмпература павінна быць вышэй (да 70 градусаў). Само «купанне» больш працяглае — да 5—10 хвілін. Сачыць, каб плямы былі ў вадзе (памешваць).

Пасля плады класці ў міску і чакаць, пакуль вада сцячэ. Раскладваць у хаце на даспяванне.

Нарэшце два словы пра перцы. Яны найбольш цеплалюбівыя. Таму абавязкова накінуць плёнку. Зрабіць дужкі і на іх пакласці ўкрыццё. На дзень яго знімаць ці адкрываць з любога боку. Апрацоўваць, як і памідоры супраць фітафторы. Расліны можна не пасынкаваць. Своечасова знімаць плады, каб даць магчымасць паскоранага развіцця тым, якія засталіся.

ХАТНЯЯ АПТЭКА

# Сок з бурачкоў

**На агародзе набірае моцы бурачок. У асобных гаспадароў гэты прадукт ужо памерам з кулак. Вільгаць, якой нават занадта, добрае збалансаванае сілкаванне, сонца ствараюць найлепшыя ўмовы для развіцця. Увосень будуць асобіны вагой адзін, два і болей кілаграмаў. У вінегрэт іх не выкарыстаеш. А вось у нашу аптэчку яны якраз падыдуць.**

Нагуляўшы «тлушчу» на градцы, такі пястун нясе ў сабе і цэлы «букет» найкаштоўнейшых лекаў. А самае важнае — набор неабходных кампанентаў для ўтварэння крывяных шарыкаў. І яшчэ амаль 50 працэнтаў натрыю, 20 — калію і 5 працэнтаў кальцыю. Калій удзельнічае ва ўсіх фізіялагічных працэсах у арганізме, кальцый зніжае ціск.

Мы не раз пісалі ў «Сядзібе», што бурачок любіць хлор (як і морква). За лета пад яго абалонкай назапасіцца цэлы зарад гэтага элемента — восем працэнтаў. Ён якраз і ачышчае нашу пячонку і ныркі ад шкодных шлакаў.

Найбольш каштоўны сок з бурачкоў. Яго выціскаюць ручным прэсам, на «Журавінцы». Кожны дзень чалавек павінен выпіваць да трох шклянак соку! А найлепшы вынік — калі літр і больш. Сокі не павінны награвацца і доўга захоўвацца, нават стэрылізавацца. Нарыхтоўкі толькі на два дні ці тыдзень. Найлепш — адразу пасля атрымання.

Прывучыцца піць сок буракоў удаецца не ўсім. Некаторых людзей нават нудзіць, ім млосна. Таму пачынаць з малых дозаў. Можна ў сумесі з сокам морквы. Гэта парачка вельмі дружная і «працавітая».

Бурачны сок (па 100 г раніцай, у абед і вечарам) дазваляе жанчынам пераадолець свае штомесячныя нязручнасці. А ў час старэння арганізма пастаянны прыём соку прыносіць больш карысці (паводле выснову амерыканскага вучонага Уокера), чым спецыяльныя дарагія лекі ў таблетках, напоях ці парашках.

# Што робіцца на цыбульнай градцы?

**Змены на агародзе амаль штодня. Вось ужо і цыбулька дорыць не толькі сакавітае пяро, але і гаркаватыя, вельмі прывабныя на выгляд плады. Важна, каб зялёны конус прастаяў хоць бы два-тры тыдні. Больш, вядома, лепш. Тады кожная асобіна набудзе дастаткова вялікія памеры.**

Асобныя дачнікі і сяляне не выбіраюць прадукцыю з градкі нават тады, калі ліст-трубачка ўжо ўпаў ці высах. Яны лічаць, што карані «працуюць», і таму ўраджай «падрасце». Не, ніякага росту не будзе. З адмiраннем наземнай часткі галоўкі не павялічваюцца. Ад знаходжання ў зямлі прадукцыя толькі псуецца. Цяпер і асабліва ў час захоўвання. Чаму звяртаем увагу на развіццё горкай прадукцыі менавіта на працягу двух-трох тыдняў? На агародах пачынае інтэнсіўна развівацца несапраўдная мучністая раса. Гэта грыбковае захворванне. Ліст з кончыкаў ці з сярэдзіны, часам знізу, бляднее, пасля рыжэе, падае долу. Калі гэта здарылася, лічыце, што сёлета ўсё скончана. Бярыце вілы і падкопвайце радочкі.

Як зберагчы ўраджай і выстаяць гэтыя два-тры тыдні? Трэба набываць прэпараты, якія маюць найбольшую сілу супраць той «расы». Гэта «фундазол», «цынеб», бардоская сумесь, цэлы букет новых — «тапаз», «аксіхом», «скор» і іншыя. Пытайцеся ў спецыяльных магазінах. Абавязкова браць і інструкцыю па прымяненню. Безумоўна, строга выконваць яе.

Ці можна падкарміць цыбульныя культуры? Безумоўна можна, калі зялёны конус жывы, жаўцізна толькі дзе-нідзе. 50-працэнтнае пашкоджанне лісцяў указвае на запозненыя меры. Падкормліваць лепш за ўсё каравяком (1:8) ці птушыным памётам (1:12). Абавязкова папярэдне расліны падрыхліць, каб падкормка пайшла прама да каранёў. Там, дзе пасадкі цыбулі былі глыбокімі, адгрэбці зямлю. Хай галоўкі нават «пабачаць» сонца. Будзе менш хвароб, а асобіны прыкметна раздадуцца ўшыркі.

Як бы мы ні чаравалі над цыбуляй ды часнаком, а фініш не за гарамі. Недзе ў другой палове ці ў канцы гэтага месяца настае час уборкі. Яе праводзіць у сонечны і сухі дзень. Выбраная з зямлі прадукцыя хай паляжыць два-тры дні на сонцы на нейкіх шчытах. Яе варушыць. На ноч накрываць плёнкай. Пасля дасушваць на цёплым гарышчы амаль месяц.

Часнок можна нават памыць. Пасля адсячы стрэлкі на адлегласці 4—6 см ад галоўкі. Рассыпаць тонкім слоем на тым жа гарышчы.

# Ружы пад каўпаком

**Хто мае свае кветнікі, напэўна заўважылі, як хутка набіраюць моцы ружы. Асобныя ўжо і зацвілі. І сярод іх ёсць вельмі прыгожыя. Іх хацелася б акараніць. А як гэта зрабіць?**

Ёсць два даступныя спосабы. Самы просты — прыгнуць да зямлі галінку. Рабіць гэта асцярожна, бо можна адламаць увесь парастак. У двух ці адным месцы рагаткай з дрэва замацаваць стволік у зямлі (усе лісточкі, якія трапяць у глебу, зняць). Потым прысыпаць зямлёй і паліць. Такое акараненне дае вынік на другі год. А на трэці новую расліну можна перасаджваць. Гэты спосаб добры тым, што ўвосень не трэба рабіць грунтоўнае ўкрыццё. Накідалі зверху некалькі галінак елкі — і ўсё добра. Вялікі мароз не дойдзе праз снежную коўдру і зямлю да таго парастка.

Другі спосаб больш складаны. Галінку з галоўкай-кветачкай зразаем. Ставім у хаце, каб палюбавацца яе харастйвом. Праз нейкі час вымаем з вады і рэжам на чаранкі. У кожным павінны быць дзве пупышкі. Кару на ніжнім зрэзе драпаем пілачкай (лепш будуць расці карані). Калі ёсць стымулятары росту, то змяшчаем на некалькі гадзін у такі раствор. Пасля ўтыкаем у зямлю не на прамым сонцы, а там, дзе паўцень. Паліваем. Накрываем паўлітровым ці літровым слоікам. Сочым, як хутка пачнуць развівацца парасткі. Своечасова паліваем і пакрысе падкормліваем. Складанасці бываюць зімой. Над нашымі чаранкамі, з якіх ужо развіліся парасткі, трэба майстраваць укрыццё з лапніку, плёнкі і інш. Увогуле, як пад вінаград. Але страты ад выправання значныя. Такім жа метадам чаранкавання разводзім абляпіху, іншыя культуры.

## Брашуры якраз да сезона

**Працягваецца продаж брашурак «Ураджайныя градкі» (газета «Для Вас»). Акрамя Мінска, дзе гэта работа добра пастаўлена ў магазінах «Сельгасхімія» (Чырвоназорная, 8) і «Сельгаскніга» (праспект Скарыны), наша выданне ёсць у магазінах «Сельгасхімія» Гомеля і Гродна.**

Можна заказаць выданні ў рэдакцыі. Але іх цана большая, бо сёння вельмі дорага каштуе перасылка: 6500 рублёў — за адзін экземпляр і 6000 рублёў — за два і больш экземпляраў (за кожны).

У нас ёсць наступныя брашуры: № 17 (як атрымаць тону памідораў і 500 кг бульбы з соткі, а яшчэ высокія ўраджаі перцаў, баклажанаў, фізалісу, тытуню); № 18 (агарод па-замежнаму — ЗША, Англія, Чэхія); № 19 (усё пра сад — пасадкі, угнаенні, абрэзка, прышчэпкі і г. д.); № 21 (кветкі ля дома, здабыткі ўмельцаў).

З любога паштовага аддзялення на разліковы рахунак газеты «Звязда» вышліце перавод з указаннем нумароў брашур. Разліковы рахунак газеты такі: 3012210270016 код 739 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінска. Адрас газеты: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, «Звязда».

Разборліва ўкажыце свой адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку. Якія брашуры жадаеце набыць (нумары), паведамляйце ў ніжняй частцы грашовага пераводу (паметка «Для пісьма»). Як толькі прыйдзе перавод, адразу ж высылаем бандэроль.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# ПАСТАВЫ *Маліся за нас і даруй нам, Маці нябесная, заступніца зямная.*

АБАРАНІ СЯБЕ САМ

## Беражыце дзяцей 2

*Гісторыі з маньякамі прымушаюць нас быць вельмі пільнымі і асцярожнымі.*

Непрыемна, што даводзіцца ўвесь час непакоіцца за дзяцей, нават калі яны гуляюць каля хаты. Тым не менш, рабіць гэта трэба. Хаця здараюцца і непрадказальныя выпадкі. Год таму мой сямігадовы сын пайшоў у краму, якая месціцца ў нашым доме. Паглядаем праз акно ў кухні. Жонка раптам з крыкам паведамляе, што ён бяжыць з плачам. Я на вуліцу.

— Што здарылася?
— Цётка нейкая стукнула.
— Дзе яна?
— У магазіне.

Я туды. Бачу — хаваецца кабета ў завуголлі. Кінуўся да яе. Па рухах зразумеў: жанчына не ў сабе. Чапаць яе не чапаў, але ўзяў за руку і павёў у аддзяленне міліцыі, дзе ўсё і распавёў дзяжурнаму. Выклікалі «хуткую». Я ж пакінуў заяву, у якой прасіў паведаміць, куды яе даставілі. Адказу так і не атрымаў. Дзе тая вар'ятка? І хто кампенсуе нервовы шок дзіцяці?

На шчасце, такія выпадкі — рэдкасць. Увогуле з дзецьмі трэба быць шчырымі і адносіцца да іх з даверам. Неабходна, каб яны расказвалі аб усіх здарэннях, што з імі адбыліся. Трэба растлумачыць дзецям, што нельга пачынаць гутарку з незнаёмцам, калі той загаварыў першым. Тут можна зрабіць выгляд, што не пачуў, і адысці ўбок. Ні ў якім разе не браць пачастункі, грошы, не згаджацца пагуляць. Варта растлумачыць дзіцяці: у такіх выпадках можна казаць няпраўду, уцякаць, кусацца, крычаць, клікаць на дапамогу і нават стукнуць.

***Кожнае дзіця павінна ведаць, што НЕБЯСПЕЧНА:***

- **сядаць з кім-небудзь, акрамя бацькоў, у чужую машыну;**
- **прымаць ад незнаёмцаў падарункі;**
- **гуляць да позняга часу;**
- **трымаць у тайне любое знаёмства з дарослым чалавекам.**

Дзіця павінна ведаць свой хатні адрас, тэлефон, прозвішча. Калі яно гуляе на вуліцы, пастаянна назірайце за ім.

Ключы ад кватэры нельга вешаць яму на шыю, ушыйце ў кішэню касцюма ці сукенкі замок-«маланку».

Вельмі ўважліва падбірайце рэпетытараў.

Растлумачце, што нельга з незнаёмым ездзіць у ліфце.

Дарослыя без дай прычыны, калі не маюць дрэнных намераў, рэдка падыходзяць да дзяцей на вуліцы. Калі вы ўбачылі, што нехта размаўляе з вашым сынам ці дачкой, падыдзіце і спытайце, у чым справа. Калі незнаёмец хуценька адышоў, распытайце пра яго, пра тое, чаго ён хацеў. Калі ўзніклі падазрэнні ў благіх намерах і бачыце, што той уцякае, паклічце каго-небудзь на дапамогу і затрымайце.

Калі зрабіць гэта не ўдалося, паведаміце пра інцыдэнт у міліцыю. Факт можа паўтарыцца, таму раскажыце суседзям аб здарэнні, апішыце знешні выгляд незнаёмца.

**(Працяг будзе.)**

СІТУАЦЫЯ

## Зрабі добрую справу, заплаці падаткі за тое, што зрабіў добрую справу, — і спі спакойна

*Пакуль на футбольным першынстве свету ў Францыі адбываюцца спартыўныя баталіі, наш родны беларускі футбол марудна, але дакладна працягвае «гарэць сінім полымем».*

Прычым у вогнішча падкідваюць усё новыя і новыя жменькі «пораху». Не паспелі яшчэ сціхнуць страсці вакол надання футбалістам мінскай каманды «Дынама-93» статусу свабодных гульцоў (гэта значыць футбалісты ў любы момант могуць без аніякіх перашкод пакінуць клуб і перайсці ў іншы), што, па сутнасці, надае самому «93-му» клубу статус «жывога нябожчыка», як стала вядома новая пікантная падрабязнасць з жыцця беларускага футбола. Падатковая інспекцыя, якая праводзіла праверку дзейнасці Федэрацыі футбола Беларусі, налічыла апошняй штрафных санкцый на суму аж 183 тысячы долараў ЗША.

Аказваецца, у мінулым годзе федэрацыя выдзеліла на рэканструкцыю стадыёна 100 тысяч долараў і не заплаціла за гэта падаткі. Хутчэй за ўсё, было выдзелена недзе каля 160 тысяч «зялёных», аднак 60 тысяч падаткам не абкладаліся, бо ішлі ў выглядзе дапамогі УЕФА.

«Так, з юрыдычнага боку падатковая служба мае права налажыць на нас штраф, — абураюцца ў Федэрацыі футбола. — Але ж, прабачце, мы гэтыя грошы не на вецер пусцілі. Гэта грошы, якія паступілі за кошт правоў на тэлетрансляцыю матча Беларусь — Аўстрыя, і мы вырашылі, што ўкласці капейку ў святую справу — рэканструкцыю стадыёна маем права без аніякіх падаткаў».

Справа ясная, што справа цёмная. З аднаго боку, і падаткі трэба плаціць па закону ўсім, а з другога — атрымліваецца як у тым анекдоце, калі мужык прыходзіць дадому, жонка хуценька бяжыць да яго, здымае боты, а той падымаецца і што ёсць сілы б'е жонцы ў нос. «За што-о-о?» — лямантуе тая. — «А каб не сапла!»

***P.S. Як стала вядома, літаральна днямі падатковая інспекцыя прыняла рашэнне аб пераглядзе справы па штрафных санкцыях да Федэрацыі футбола Беларусі.***

**Алесь СІВЫ.**

## ВІНШАВАННІ

Сардэчна віншую **Віктара СМАЛЕНСКАГА** *з г. Смаргоні* з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, дабрабыту ў сям'і і здзяйснення мараў.

***Сястра Юля.***

Віншуем з заканчэннем Столінскага каледжа **Вольгу Мікалаеўну БЕЛУЮ** *з в. Гошчава*

*«Пусть и дальше путь-дорога*
*будет ровной и прямой,*
*никогда пускай тревога*
*не зайдет к тебе домой».*

**Дземідовічы, г. Мінск.**

Шчыра віншуем з днём нараджэння **Івана ШУЦЬКО** *з в. Ніўнае.* Зычым моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту ў сям'і.

***Сям'я Лукашэвічаў.***

Віншую любую бабулю **Зінаіду Якаўлеўну НАСЕННІК** з днём нараджэння. Жыві, любая, доўга і шчаслiва.

***Унучка Каця, в. Бярозкі.***

Віншуем **Валянціну Пятроўну ЯКУШ** з 45-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, светлых дзён, удачы.

***Сяброўкі Шпакоўская, Іовіна, в. Крукавічы.***

ІДЭІ І ЛЮДЗІ

# КРАСНЕНСКІ КАНСЕРВАВЫ ЗАВОД: прадукцыя высокай якасці па прымальнай цане

**Гэта сёння на заводзе вытворчыя магутнасці поўнасцю загружаныя, персанал працуе ў тры змены і, галоўнае, няма праблем са збытам прадукцыі — грузавыя машыны стаяць у чарзе ля прахадной прадпрыемства.**

А яшчэ год таму мала хто верыў у яго адраджэнне. Завод упэўнена набліжаўся да банкруцтва: картатэка 6 мільярдаў рублёў, разбураная вытворчая база, няпоўны працоўны тыдзень па 4 гадзіны ў дзень, затрымкі з выплатай мізэрнай зарплаты.

Сітуацыя пачала мяняцца ў лепшы бок з прыходам новага дырэктара Ірыны Сінельнікавай. Яна зрабіла стаўку на выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі — у першую чаргу таматных соусаў з высакаякаснай натуральнай сыравіны без дабавак кансервантаў, чым, дарэчы, грашаць многія замежныя вытворцы аналагічных відаў харчовых прадуктаў, у прыватнасці кетчупаў, якія сталі апошнім часам даволі папулярнымі ў нашай краіне.

Але ўсё натуральнае і якаснае, як вядома дорага каштуе. Тым не менш, на заводзе вырашылі не эканоміць на сыравіне, пачалі закупляць яе толькі высакаякасную, з агародніны, якая даспела на палетках пад паўднёвым сонцам, а не зробленай з паўзялёных таматаў, якія потым «даходзяць» у скрынках да неабходнай кандыцыі. Падобная сыравіна каштуе значна танней, але і соусы з яе не вельмі смачныя.

Таму сыравіну завод набывае ў Турцыі, Іспаніі, Іране. Таматная паста з гэтых рэгіёнаў адрозніваецца прыемнымі смакавымі якасцямі. Таму і прадукт з яе таксама атрымліваецца смачны, духмяны, экалагічна чысты.

У гэтым даволі хутка разабраліся пакупнікі. Іх вабіць яшчэ і тое, паўтаруся, што гэта натуральныя таматныя соусы ў поўным сэнсе гэтага слова. У іх няма ніякіх кансервантаў.

Таму зусім не выпадкова сёння прадукцыя Красненскага кансервавага завода карыстаецца ўстойлівым попытам сярод спажыўцоў. Хаця тут соусы «Таматны мінскі» і «Краснадарскі» выпускаюць па той жа рэцэптуры, што і на іншых аднатыпных з Красненскім заводам прадпрыемствах. Але далёка не ўсе з іх могуць пахваліцца падобнай высокай якасцю прадукцыі.

Нядаўна на Красненскім заводзе распрацавалі і запусцілі ў вытворчасць свой фірменны востры соус «Наташа». Туды дабаўляюцца розныя спецыі (яны надаюць соусу своеасаблівы прыемны смак) і адмысловыя дабаўкі, якія нават, як сцвярджаюць аўтары рэцэпта прадукту, нават павышаюць патэнцыю ў мужчын.

Асваенне канкурэнтаздольнай прадукцыі літаральна надало другое дыханне яшчэ нядаўна «ляжачаму» прадпрыемству. За год колькасць працуючых на заводзе павялічылася больш чым удвая. Зарплата тут не меншая за сярэднюю па Беларусі. Людзі, натуральна, зараблялі б больш, але шмат сродкаў (мільярды рублёў) забірае рамонт вытворчых цэхаў, пагашэнне крэдытаў, замена абсталявання, якое (за рэдкім выключэннем) даўно маральна састарэла і амаль поўнасцю выпрацавала свой фізічны рэсурс. Усе гэтыя затраты адбіваюцца на сабекошце прадукцыі ў сэнсе яго павелічэння.

Тады адкуль прымальныя цэны на соусы? Такія ж, як і на прадукцыю іншых падобных прадпрыемстваў, хаця на Красненскім заводзе закупляюць дарагую сыравіну. Справа ў тым, што тут вялікія аб'ёмы вытворчасці і дзякуючы гэтаму атрымліваецца адносна невялікі сабекошт соусаў.

Галоўная ідэя дырэктара Ірыны Сінельнікавай — поўнасцю аднавіць і пераабсталяваць завод, умацаваць яго фінансавую базу і з цягам часу выйсці на выпуск новых відаў прадукцыі. Напрыклад, заняцца разлівам якасных і недарагіх натуральных він. Плошчы і ўмовы завода дазваляюць гэта рабіць. Ірына Сяргееўна ўжо правяла папярэднія перагаворы з патэнцыяльнымі партнёрамі з Малдавіі. Там не супраць на ўзаемавыгаднай аснове пастаўляць віно. І хто ведае, можа хутка мы пачуем пра віны красненскага разліву.

**Леанід ТУГАРЫН, Яўген ПЯСЕЦКІ *(фота).***

*Начальнік лабараторыі Наталля КАРУНЦАВА і мікрабіёлаг Святлана СІЛЬВАНОВІЧ.*

*Ідзе тэрмічная апрацоўка прадукцыі.*

***КААРДЫНАТЫ ЗАВОДА:***
Рэспубліка Беларусь,
Мінская вобласць,
Маладзечанскі раён, Краснае.
*Тэл./факс (8-273) 96159;* **96279** (бухгалтэрыя); **96277** (аддзел збыту).

36,6°

# Колькі існуе відаў галаўнога болю?

*Супрацоўнік медыцынскага цэнтра штата Місісіпі Кенет Мур налічыў іх 50.*

Найбольш часта сустракаецца тупы, сцягваючы боль у скронях, выкліканы скарачэннем мускулаў галавы і шыі.

Мігрэнь — больш інтэнсіўны, пульсуючы боль, які можа працягвацца ад 4 да 72 гадзін і суправаджацца млоснасцю, галавакружэннем, павышанай адчувальнасцю да светлавых і гукавых раздражняльнікаў, паколваннем у канечнасцях.

Боль, які надыходзіць прыступамі, падобны на мігрэнь, але яшчэ больш пакутлівы; ён свярбіць у вочным яблыку ці на макушцы і можа ўзнікаць да 10 разоў на дзень на працягу некалькіх тыдняў, а потым спыняцца на доўгі час.

Яшчэ адзін від — глыбокі тупы боль у раёне носа, вачэй і шчок, выкліканы запаленнем гаймаравых пазух, які ўзмацняецца пры кашлі ці рэзкім змяненні паставы галавы.

Сярод іншых тыпаў галаўнога болю даследчык выдзеліў пахмельны сіндром; боль, які ўзнікае пры празмерным ужыванні болесуцішальных прэпаратаў ці кафеіну; галаўны боль, выкліканы голадам; боль, што ўзнікае з-за тромба, а таксама боль як вынік траўмы шыі ці галавы.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Арына КАЗАКОВА.**



**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.* **ФАКС:** *68-27-79.* **E-mail:** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by.* **http://www.zvyazda-daily.minsk.by.**



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80 745. Індэкс 63850.
Зак. № 4032.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12